Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 10 (5341)
Аўторак, 29 студзеня 2002 года

Падзея

## Барысаў сабраў сяброў

***24-27 студзеня прайшло II міжрэгіянальнае свята дзіцячай харэаграфіі "Барысаўскі прыстанак", прысвечанае 900-годдзю горада Барысава. На самых розных пляцоўках старажытнага места (цяперашняга раённага цэнтра) сустрэліся гісторыя і сучаснасць, статыка і рухомасць, скамянелая вечнасць і жвавая маладосць са сваім неад'емным ва ўсе часы атрыбутам - танцамі...***

А па вялікім рахунку, сустрэліся дзве прыгожыя беларускія легенды. Адна з іх сягае ажно ў 1102 год, калі полацкі князь Барыс Усяслававіч, вяртаючыся з пераможнага паходу на яцвягаў, пабудаваў на левым беразе Бярэзіны горад і даў яму імя – Барысаў.

Другая "легенда" – нашмат маладзейшая за першую – адсылае нас у мінулы 2001 год, калі барысаўскі ўзорны ансамбль "Раўніца" выступіў з ініцыятывай правесці першае міжрэгіянальнае свята дзіцячай харэаграфіі "Барысаўскі прыстанак", удзельнікамі якога сталі б лепшыя танцавальныя калектывы горада, а таксама ганаровыя госці з самых розных населеных пунктаў былога Саюза. Тады, у 2001 годзе, свята ўдалося на славу. Госці (а сярод іх былі такія знаныя ансамблі, пераможцы розных міжнародных фестываляў і конкурсаў, як "Непаседы" з Таліна, "Сузор'е" з Петразаводска, "Сюрпрыз" са Смаленска, "Чарадзеі" з Санкт-Пецярбурга і інш.) вярталіся з Барысава з найлепшымі ўражаннямі ад гасціннасці гаспадароў. Барысаўскія дзіцячыя калектывы атрымалі непараўнаны ўрок прафесійнай харэаграфіі і добры штуршок для далейшага развіцця ўласнага танцавальнага майстэрства. Галоўным жа вынікам леташняга фэста стала аднадушнае рашэнне як арганізатараў, так і ўдзельнікаў аб правядзенні падобнага мерапрыемства штогод.

І вось сёлета "Барысаўскі прыстанак" на чатыры дні зноў стаў прыстанкам Тэрпсіхоры, пад заступніцтвам якой аматараў харэаграфічнага мастацтва парадавалі юныя танцоры, удзельнікі мінулагодняга свята і некаторыя госці, што прыехалі ў Барысаў упершыню, відавочна пашырыўшы геаграфію фестывалю: "Айседора" з Растова-на-Доне, "Адраджэнне" з Масквы, "Жавароначкі" з Мінска, "Задорынка" з Рыгі і "Фрагмент" з Днепрапятроўска.

Сапраўднае свята харэаграфіі, у якое ператварыліся чатыры дні "Прыстанку", стала магчымым толькі дзякуючы нястомнай працы педагогаў-харэографаў, кіраўнікоў і ўдзельнікаў дзіцячых калектываў.

Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца ўсё той жа ўзорны ансамбль "Раўніца", які, дарэчы, ужо сам па сабе можа лічыцца легендай і гонарам барысаўчан ды і ўсіх беларусаў. Створаны на базе харэаграфічнага аддзялення барысаўскай школы мастацтваў № 2 пятнаццаць гадоў назад, гэты дзіцячы калектыў ужо з самай першай сваёй праграмай "Бегаў бай" стаў лаўрэатам І Рэспубліканскага фестывалю беларускага танца і заваяваў права называцца ўзорным. З таго часу "Раўніца" ані не зніжала аднойчы ўзнятай планкі і не раз перамагала на прэстыжных фестывалях ды конкурсах ("Сожскі карагод", "Арляняты Расіі", "Залатыя ключы", "Усе мы родам з дзяцінства", "Ранішняя зорка" і інш.). 2-я школа мастацтваў і сёння жыве па тым напружаным, але плённым раскладзе, які дазволіў дасягнуць узорнаму калектыву гэткіх высокіх вынікаў. Так, групавыя заняткі на харэаграфічным аддзяленні праводзяцца чатыры разы ў тыдзень, удзельнікі "Раўніцы", апроч гэтага, збіраюцца тры разы на тыдзень на рэпетыцыі, а ў падрыхтоўчыя перыяды непасрэдна перад адказнымі выступленнямі юныя прафесіяналы рэпеціруюць і наогул штодня...

Бадай, кожны танцавальны нумар на сёлетнім "Барысаўскім прыстанку" стаў маленечкім святам, мілым сюрпрызам для ўдзячных гледачоў. (Між іншым, не абышлося і без Сюрпрызаў з вялікай літары, калі, скажам, "гарачыя" эстонскія хлопчыкі з талінскіх "Непаседаў" прапанавалі барысаўчанам уласную – "эстонскую" – танцавальную версію песняроўскай "Каляды".) Кожны ўдзельнік харэаграфічнага свята стаў маленькім героем у вачах аднагодкаў у глядзельнай зале.

Далібог, калі б не было гэтакага свята ў Барысаве, яго варта было б прыдумаць. Надта ж хараша і эстэтычна распачаў святкаванне свайго 900-гадовага юбілею буйны прамысловы цэнтр, няпростая сацыяльная спецыфіка якога накладвае свае істотныя асаблівасці на тутэйшую сістэму адукацыі і выхавання, у тым ліку выхавання эстэтычнага... Зрэшты, гэта – ужо іншае пытанне, вартае асобнай падрабязнай гутаркі.

А пакуль: доўгіх і шчаслівых дзён табе, "Барысаўскі прыстанак"!

**Мікола ЧЭМЕР.**

***PS. Пра асаблівасці адукацыі ў Барысаве чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў газеты.***

## Маэстра Галубкоў і яго "Сузор'е" дзіцячага дома

***Сяргей Іванавіч Галубкоў - асоба вядомая ў Даматканавічах, што на Клеччыне. Ніводная, нават сціплая, урачыстасць не абыходзіцца без яго, бо ён мясцовы талент: грае на дзесятку музычных інструментаў, спявае, танчыць, складае сцэнарыі, вядзе розныя праграмы, выступае ў ролі тамады. Такі ўжо ён чалавек - майстар-маэстра. У яго не паходка - танец, крокі ягоныя выдаюць "музычную чачотку", - так расказвалі мне выхаванцы дзіцячага дома, дзе Галубкоў працуе.***

У 1974 годзе выхаванец Сяргей Галубкоў паступіў у Клецкі дзіцячы дом. За пяць гадоў вучобы ён быў і спеваком, і музыкам, і танцорам. Яго называлі любімцам публікі. У 1979 годзе Сяргей паступіў у Брэцкае музычнае вучылішча на аддзяленне "Народныя інструменты". Вучоба была юнаку ў радасць, усё атрымлівалася. Яму прадракалі вялікае будучае... Але сіроцкая доля сказалася і тут. Нястача і безграшоўе прымусілі Сяргея Іванавіча вярнуцца ў дзіцячы дом. Яго ўзялі музычным работнікам. Затым была служба ва Узброеных Сілах. І толькі ў 1986 годзе збылася запаветная мара юнага маэстра – ён стаў студэнтам музвучылішча ў Бранску. Лепшы студэнт патока, выдатнік вучобы, аўтар многіх музычных твораў, таленавіты кампазітар-аранжыроўшчык – у такім суквецці праходзілі гады вучобы Галубкова ў Бранскім музычным вучылішчы.

– Сам я дзетдомавец, добра ведаў, што трэба гэткай дзятве. Разумеў, як яе вучыць і выхоўваць. Ведаў, што музыка – тое, што захапляе сірот, робіць іх лепшымі, – успамінае Сяргей Іванавіч. – Менавіта таму ваганняў пасля музвучылішча не было – еду ў родны дзіцячы дом.

Так з 1986 года і працуе Галубкоў Сяргей Іванавіч музычным кіраўніком. "16 гадоў працы ў Даматканавічах праляцелі на адным дыханні. Любімая работа, любімыя дзеці і царыца, валадарыца маёй душы – музыка – тое, чаму я служыў усе гэтыя гады", – расказвае ён.

А старшы выхавальнік Клецкага дзіцячага дома І.А.Шалковіч кажа так: "Галубкоў калі ўжо іграў, дык кульгавыя і нямоглыя танчылі, калі спяваў – безгалосыя салаўямі заліваліся, і калі ўжо вучыў музыцы – таленты ўзрошчваў..."

У Клецкім дзіцячым доме таленавіты музыка выкладае музыку і спевы ў пачатковых класах, з'яўляецца музычным дыджэем дыскатэк, але галоўным сваім участкам лічыць мастацкае кіраўніцтва ўзорнай вакальнай студыяй "Сузор'е". Кажуць, два гады назад, калі прадстаўнікі Міністэрства культуры прыехалі ў дзіцячы дом слухаць "Сузор'е", старшыня камісіі пасля 15 хвілін праслухоўвання праграмы сказаў: "І "Сузор'е", і яго кіраўнік – таленты. Яму прысвойваецца аднагалосна званне "узорны калектыў". Сёння "Сузор'е" – неаднаразовы лаўрэат рэспубліканскага конкурсу мастацкай самадзейнасці інтэрнатных устаноў "Вясёлкавы карагод", шматлікіх конкурсаў-аглядаў мастацкай самадзейнасці раёна, вобласці, рэспублікі. Авацыямі сустракалі калектыў у Рыме і Вітэрбо ў Італіі. Шмат выхаванцаў С.І.Галубкова – лаўрэаты Усебеларускага конкурсу "Усе мы родам з дзяцінства". Асаблівы поспех на гэтым конкурсе мелі Стас і Таццяна Кан.

"Век жыві – век вучыся" – гэта дэвіз жыцця Сяргея Іванавіча. Менавіта таму ў 1990 годзе ён закончыў з адзнакай Беларускі інстытут культуры па спецыяльнасці дырыжор аркестра беларускіх народных інструментаў.

Сяргей Іванавіч Галубкоў штогод удзельнічае ў раённых конкурсах-аглядах аўтарскай песні і з'яўляецца іх лаўрэатам. У маі кожнага года, у дзень абароны дзяцей, на гарадскім стадыёне ў Клецку Галубкоў арганізоўвае канцэрт-справаздачу юных меламанаў з дзіцячага дома. На гэту шоу-праграму Галубкова збіраецца ўвесь Клецк.

"Гэта нязгасная педагагічная зорка, наш Данка, які нясе свой музычны скарб выхаванцам. Без яго я не ўяўляю нашу ўстанову", – кажа Алег Аляксеевіч Семянчук, дырэктар Клецкага дзіцячага дома пра Сяргея Іванавіча Галубкова.

Упэўнены, дырэктар мае рацыю.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**Метадыст Мінскага абласнога ІПК.**

НА ЗДЫМКУ: Сяргей Галубкоў.

Навіны

## Універсітэт на Палессі

***Універсітэтам у далейшым будзе называцца Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут.***

Аб гэтым сведчыць пэўнае заключэнне камісіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь па атэстацыі гэтай вышэйшай навучальнай установы. Цяпер гэта адзіная педагагічная ВНУ ў беларускім Палессі, прыём у аспірантуру якой тут павялічыўся ў два разы, а колькасць факультэтаў за апошнія гады ўзрасла ў дзесяць разоў.

## Саюз рыцараў

***Рашэнне аб стварэнні "Міжнароднай сярэдневяковай лігі" прынялі 23 рыцарскія клубы і "сярэдневяковыя" групы з Беларусі, Расіі, Украіны і краін Балтыі.***

Дзейнасцю ў сферы гістарычнай рэканструкцыі культуры IX–XV стст. будзе займацца гэтае добраахвотнае, незалежнае аб'яднанне. Развіццё і прапаганда гістарычных ведаў, а таксама садзеянне ў захаванні, абароне і ўзнаўленні помнікаў гісторыі і культуры будзе асноўнай мэтай Лігі. Вядомы арганізатар "сярэдневяковых" мерапрыемстваў у Беларусі і за яе межамі Ігар Міхно выбраны прэзідэнтам новага аб'яднання.

Прыярытэтныя для ўдзельнікаў Лігі мерапрыемствы адбудуцца ў 2002 годзе ў Расіі, Латвіі і Беларусі. У іх ліку рэканструкцыя 5 – 7 красавіка Лядовага пабоішча ў Расійскай Федэрацыі. А ў сярэдзіне і ў канцы чэрвеня адбудуцца другія "сярэдневяковыя" фестывалі, пры гэтым Балтыйскі пройдзе ў Цэсісе (Латвія), "Навагрудскі замак" у Беларусі, а месца для правядзення шостага ваенна-гістарычнага фестывалю "Рыцарскі замак" вызначана ў Выбаргу на 27 – 29 ліпеня.

**Пётр ШУБЯНОК.**

## Клуб Пятра Машэрава

***Гэты клуб узнік чатыры гады назад у Віцебскім дзяржаўным універсітэце, калі адзначалася 80-годдзе з дня нараджэння гэтага шырока вядомага ў народзе чалавека.***

Нядаўна адбылося чарговае пасяджэнне савета клуба. Прарэктар універсітэта Анатоль Дарафееў паведаміў аб ходзе рэканструкцыі музея "Баявой садружнасці" ў Расонах, а старшыня савета клуба Сяргей Шабашоў падкрэсліў, што ўдалося сабраць вялікую колькасць успамінаў тых, хто добра ведаў Пятра Міронавіча, разам з ім працаваў і абараняў нашу краіну.

Метадычны пакой, які размяшчаецца ў памяшканні універсітэта, заўсёды выклікае вялікую цікавасць і можа паслужыць карысным сродкам выхавання маладога пакалення.

## Італьянцы для беларускай школы

***Ужо на працягу чатырох гадоў італьянскі грамадскі фонд "Гуманітарная асацыяцыя Чарнобыля" з П'емонтэ сябруе з Бабіцкай сярэдняй школай Рэчыцкага раёна.***

За гэты час у сонечнай Італіі аздаравіліся каля ста дзяцей з Бабіч. Прычым беларускія школьнікі за мяжой не толькі адпачываюць, але і вучацца на спецыяльных занятках англійскай і італьянскай мовам.

Італьянцы прафінансавалі бурэнне новай артэзіянскай свідравіны, каб вада ў школе была чыстай. Замянілі сантэхніку.

Школе падарылі таксама і трактар МТЗ з прычэпам.

У Бабіцкай сярэдняй школе функцыянуе медыцынскі цэнтр імя Марка Ферэра, які створаны на грошы італьянскай сям'і. Тут школьнікам і вяскоўцам аказваецца бясплатная стаматалагічная дапамога.

## Камп'ютэры ў падарунак

***Нядаўна прадстаўнікі Віцебскага абласнога ўпраўлення службы занятасці насельніцтва падаравалі выхаванцам Ветрынскай школы-інтэрната Полацкага раёна шэсць камп'ютэраў і шэсць прынтэраў.***

Гэтая аргтэхніка працавала пэўны час у вышэйназваным упраўленні, але не вытрымала новых сучасных праграм і была заменена на новую, а машыны, прыдатныя для заняткаў інфарматыкі і камп'ютэрных гульняў, было вырашана перадаць дзецям Ветрынскай школы-інтэрната.

Цяпер усе, хто жадае, змогуць наведваць камп'ютэрны гурток, а настаўнікі без асаблівых праблем – раздрукоўваць раздатачны матэрыял для ўрокаў.

## Юныя біёлагі жывуць у Домжарыцах

***На канферэнцыі навуковых біялагічных аб'яднанняў вучняў Віцебскай вобласці вызначыліся юныя біёлагі з Домжарыцкага эканамічнага ліцэя.***

Шэсць ліцэістаў падрыхтавалі чатыры навуковыя работы. Усяго на канферэнцыі былі разгледжаны 22 навуковыя работы юных біёлагаў.

Першае месца ў секцыі экалогіі было прысуджана Кацярыне Табола і Алене Зуёнак, а лепшыя работы юных біёлагаў будуць прадстаўлены на рэспубліканскай канферэнцыі.

## Сэрца словам абуджае

***Свой новы зборнік, які нядаўна пабачыў свет, прадставіў студэнтам філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта паэт Алесь Каско.***

Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова пазнаёміў прысутных з кнігай "Трохкроп'е", куды ўвайшлі не толькі паэтычныя творы, але і нататкі аўтара пра паэзію.

Пра асобу госця і адметнасці ягонай творчасці гаварылі выкладчыкі універсітэта, а сам ён расказваў аб гадах вучобы ў сценах гэтай установы, дзяліўся сваімі поглядамі на сучасны стан літаратуры.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

## "Птушкі-2002"

***У падведамасным Міністэрству адукацыі цэнтры прафтэхадукацыі Першамайскага раёна сталіцы на працягу двух выхадных дзён дэманстравалася выстаўка галубаводаў і аматараў птушак "Птушкі-2002".***

Бясплатны ўваход на выстаўку, баі байцовых гусей прывабілі мноства наведвальнікаў. Сотні "экспанатаў" дэманстраваліся на двух паверхах і ў двары. Акрамя мноства відаў галубоў, былі прадстаўлены дзесяткі парод лясных птушак Беларусі, дэкаратыўныя куры.

Многіх дарослых і школьнікаў зацікавілі і галубы сталічнага клуба, які адзначыў сваё саракагоддзе. Вызначыўся ўдзельнік гэтага клуба са знамянальным прозвішчам В.Н.Галубец, спартыўныя птушкі якога заваявалі ўсе тры прызы для гэтай пароды.

**Вільям АСТРЫНСКІ.**

Супрацоўніцтва

## Пра экалогію, рэлігію і не толькі

***Супрацоўніцтва беларускіх школ са школамі блізкага і далёкага замежжа ўжо стала нармальнай з'явай. Нашы настаўнікі і вучні з задавальненнем дзеляцца вопытам са сваімі замежнымі калегамі. А іншы раз і беларускім школьным педагогам даводзіцца сустракаць гасцей, як гэта адбылося з настаўніцкім і вучнёўскім калектывамі 181-й мінскай сярэдняй школы, на базе якой з 21 па 26 студзеня праходзіў міжнародны семінар "Супрацоўніцтва".***

У якасці замежных удзельнікаў, а дакладней, сяброў (прыязджаюць ужо не першы раз), былі настаўнікі з Польшчы. Семінар прадугледжваў наведванне ўрокаў, музеяў, Купалаўскага тэатра. Але мяне, шчыра кажучы, цікавіла іншае – што адбываецца ў польскіх школах сёння, як жывецца тамтэйшым настаўнікам і вучням? І польская настаўніцкая дэлегацыя ветліва пагадзілася адказаць на некаторыя пытанні.

**- Наша школа складаецца з трох частак - пачатковая, сярэдняе звяно і старэйшыя класы. А на якія "элементы" падзяляецца польская школа?**

*Анэта, настаўніца французскай мовы Зелена-Гурскай школы:*

– У нашай школе дзеці вучацца ад 7 да 21 года. Усё пачынаецца ў пачатковай школе і заканчваецца ў вучылішчы. Пачатковая школа – гэта 6 першых класаў, якія, ў сваю чаргу, дзеляцца як бы на дзве часткі – 1–3 класы (зусім малыя) і 4–6. Сёмы, восьмы, дзевяты класы належаць да гімназічных. Лічыцца першы клас гімназіі, другі клас гімназіі і трэці клас гімназіі. У ей пачынаюць вучыцца з 12-ці гадоў. Потым ідуць ліцэйскія класы. Далей выпускнік можа здаваць уступныя экзамены ва універсітэт, а можа і не здаваць. Тады ён застаецца на так званую пасляліцэйскую вучобу (2 гады), пасля якой атрымлівае прафесійную адукацыю. У нашай школе гэта рэкламны бізнес.

**- Профіль вашай школы - рэклама?**

*Пані Анэта:*

– Не, наша школа з'яўляецца экалагічнай. Дзеці з першага класа займаюцца экалогіяй, а навучанне рэкламнаму бізнесу спрыяе пашырэнню агульнага курса школы – гэта навучанне больш высокаму прафесійнаму ўзроўню.

**- Ці існуе ў польскіх школах адзіная праграма навучання, прапанаваная Міністэрствам адукацыі?**

*Пані Анэта:*

– Такой праграмы няма. Наша Міністэрства адукацыі прапаноўвае настаўнікам 5–6 праграм на кожны прадмет. Настаўнік мае права выбару. Да таго ж ён можа перапрацаваць прапанаваную праграму або распрацаваць сваю. Яшчэ настаўнікам прапануецца нешта накшталт праграм факультатыўных, з якіх можна выбраць асобныя тэмы. Потым яны будуць разглядацца на ўроках ў рамках пэўнага прадмета.

**- Дарэчы, а якія прадметы ў польскай школе лічацца абавязковымі?**

*Пані Анэта:*

– Прадметы, што вывучаюцца ў нашых школах, як правіла, такія, як і ў вас. Абавязковымі з'яўляюцца мова, матэматыка. У пачатковай школе выкладанне гэтых прадметаў з'яўляецца блочным. Адзін блок – гуманітарны, другі – прыродазнаўчы. У гімназіі адбываецца далейшы падзел прадметаў гэтых блокаў. Што датычыцца замежнай мовы, дык яе вывучэнне ажыццяўляецца з пачатковай школы. У старэйшых класах іх можа быць дзве.

**- Паколькі тут прысутнічаюць настаўнікі-прадметнікі, то наступнае пытанне я адрасую пані Эльвіры, якая выкладае інфарматыку. Калі пачынаецца вывучэнне інфарматыкі і ў якім кірунку ідзе авалоданне камп'ютэрам?**

– Вывучэнне інфарматыкі ідзе з пачатковай школы, з шостага класа. Навучанню камп'ютэрнай грамаце адводзіцца прыкладна гадзіна ў тыдзень. Дзеці вучацца быць камп'ютэрнымі карыстальнікамі, яны вывучаюць шэраг праграм (Windows-95, тэкставы рэдактар і г.д.) – вывучаюцца тыя праграмы, якія дазваляюць карыстацца камп'ютэрам свабодна. Уключаюцца яшчэ і элементы праграміравання. У нас прапануецца карыстацца камп'ютэрам на ўсіх прадметах. Кожны настаўнік павінен як мінімум адзін урок праводзіць з выкарыстаннем камп'ютэра.

**- Наступнае пытанне да пані Ірэны, настаўніцы трошкі для нас дзіўнага прадмета. А прадмет гэты рэлігія. Што ён уключае ў сябе? Ці з'яўляецца абавязковым?**

– Дзве гадзіны на тыдзень польскія вучні вывучаюць такі прадмет як рэлігія. Ён не з'яўляецца абавязковым, але ў расклад унесены. Дзеці пераважна вывучаюць каталіцызм. Вы ж ведаеце, што большасць палякаў – каталікі. Але можна займацца вывучэннем і іншых рэлігій – наведваць розныя канфесіі, толькі потым прынесці адтуль пісьмовае пацвярджэнне з адзнакай, якая пойдзе ў атэстат. Дзеці могуць увогуле не вывучаць рэлігію – гэта залежыць ад пажаданняў іх бацькоў. Што датычыцца выкладчыкаў, дык гэты прадмет выкладаюць манашкі, ксяндзы або свецкія настаўнікі, якія атрымалі адпаведную адукацыю. Яшчэ можна вывучаць рэлігію, якую і невызнаеш. Я, напрыклад, навучала дзяцей з Украіны. Яны былі праваслаўныя, але вывучалі каталіцызм.

**- А зараз - зноў пытанне агульнага плана. Вы, напэўна, ведаеце, што ў нашых школах у асноўным пяцібальная сістэма ацэнкі ведаў, хоць у рамках рэформы многія пачынаюць пераходзіць на дзесяцібальную. Якія крытэрыі выстаўлення адзнак існуюць у польскіх школах?**

*Пані Анэта:*

– З першага па трэці клас дзецям не ставяць адзнак так, як гэта робіцца ў вас. У гэты час адзнака носіць больш апісальны характар. Настаўнік дае рэкамендацыі вучню – што ў яго добра атрымліваецца, а на што неабходна звярнуць больш увагі. Усе дзеці з першага па трэці клас на другі год не застаюцца, незалежна ад іх ведаў. Адзнакі пачынаюць ставіць з чацвёртага класа. У нас – шасцібальная сістэма ацэнкі ведаў. Адзнака "адзінка" з'яўляецца нездавальняючай, з ёй не пераводзяць у другі клас. У такім выпадку трэба здаваць дадатковыя экзамены па тых прадметах, за якія атрымалі "адзінкі". Адзнака "двойка" таксама з'яўляецца ўмоўна-пераводнай. Усе астатнія адзнакі прыкладна як і ў вас – чым лепшыя веды, тым вышэй яны ацэньваюцца.

**- Вы казалі, што міністэрства прапануе вам некалькі праграм на кожны прадмет. Якім чынам вырашаецца праблема з падручнікамі?**

*Пані Анэта:*

– Настаўнік выбірае праграму, якую прапануе міністэрства, і да кожнай праграмы ёсць падручнік. Набор падручнікаў настаўнік выбірае самастойна, а такіх, якія з'яўляліся б абавязковымі для ўсяго курса навучання, няма. Дзецям падручнікі купляюць бацькі. Раней старыя падручнікі можна было прадаць або перадаць малодшым родзічам, а зараз яны складзены так, што вучні выконваюць практыкаванні непасрэдна ў саміх падручніках. Зразумела, што далейшае выкарыстанне такога падручніка ўжо немагчыма, таму бацькам даводзіцца купляць іх штогод.

**- Раскажыце, калі ласка, пра структуру навучальнага года ў польскіх школах, пра будову раскладу, напаўняльнасць класаў.**

*Пані Анэта:*

– Польская школа вучыцца два семестры – ад верасня да студзеня (першы семестр), з лютага і амаль да канца ліпеня (другі). Вучні атрымліваюць свае адзнакі два разы ў год – пасля першага семестра, потым пасля другога – выніковыя. Урок, як і ў вас, доўжыцца 45 хвілін, у нашых школах – пяцідзёнка. У пачатковай школе штодзённа праводзіцца 4–5 урокаў, у гімназіі – 5–6 урокаў і ў ліцэі – 7–8. Што датычыцца напаўняльнасці класаў, то калі ў класе вучацца дзеці-інваліды, гэта недзе 20 чалавек, калі звычайны клас – да трыццаці.

**- А існуюць пазакласныя заняткі, факультатывы?**

*Пані Анэта:*

– Паколькі ў нашай школе вучацца дзеці-інваліды, мы яшчэ займаемся і іх рэабілітацыяй. У нас ёсць басейн, трэнажорная зала, побач пабудавана канюшня, таму хочам увесці заняткі па коннаму спорту. Факультатыўныя заняткі праходзяць у ліцэйскіх класах. Яны праводзяцца па тых прадметах па якіх дзеці здаюць выпускныя экзамены. У пачатковай школе дзейнічаюць гурткі па інтарэсах (па шахматах, пластыцы і г.д.).

**-Дзякуй за гутарку.**

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

*P.S. Вельмі ўдзячная свайму перакладчыку, настаўніцы 181-й сярэдняй школы Мінска Яўгеніі Георгіеўне Ламаносавай.*

Акцыі

## Кіруем на Крупшчыну

***Рэктарат, пярвічная арганізацыя БПСМ, савет студэнцкага самакіравання Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка сумесна з аддзелам па справах моладзі Мінгарвыканкама і Крупскім раённым выканаўчым камітэтам традыцыйна, вось ужо ў 37-ы раз будуць праводзіць Зорны паход па мясцінах баявой і працоўнай славы беларускага народа.***

Мэтай паходу з'яўляецца патрыятычнае выхаванне моладзі, адраджэнне нацыянальных і культурных традыцый, фарміраванне педагагічных уменняў і навыкаў будучых педагогаў, арганізацыя актыўнага адпачынку і ўмацаванне здароўя студэнтаў.

Зорны паход якраз прыпаў на час зімовых канікулаў студэнтаў і будзе праходзіць па тэрыторыі Крупскага раёна Мінскай вобласці. Мітынг, прысвечаны старту паходу, адбыўся ў скверы вучэбнага корпуса №3 каля помніка студэнтам і выкладчыкам БДПУ, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

У час паходу студэнты выступяць з канцэртамі ў дзіцячых садах, школах, на прадпрыемствах і ў дамах культуры Крупскага раёна, правядуць спартыўныя спаборніцтвы, прафарыентацыйныя гутаркі. На заключным этапе паходу будуць падведзены вынікі, арганізаваны мітынг і ўскладанне кветак да помніка жыхарам раёна, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Сумесна з аддзелам адукацыі Крупскага райвыканкама пройдзе семінар па праблемах развіцця вышэйшай педагагічнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь, адбудуцца таварыскія сустрэчы па валейболу і футболу, у Доме культуры Крупскага раёна – канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці.

У паходзе ўзялі ўдзел звыш 200 студэнтаў.

**Ігар КАРПЕНКА,**
**начальнік упраўлення выхаваўчай работы БДПУ імя М.Танка.**

Юбілеі

# І ў 90 гадоў - у страі!

***Оскар Уайльд пакінуў нам цікавую і глыбокую думку: "Трагедыя старасці не ў тым, што старэеш, а ў тым, што застаешся маладым". Я прыгадаў гэтыя словы на юбілеі заслужанага настаўніка БССР, кандыдата прыродазнаўчых навук, баявога ардэнаносца, палкоўніка ў адстаўцы Івана Сяргеевіча Салдаценкава. Хаця... Хаця пры чым тут старасць у дачыненні да гэтага чалавека? Ён па-ранейшаму бадзёры, пастаянна ў працы, у яго амаль заўсёды не хапае часу.***

...Перапоўненая актавая зала Мінскага суวораўскага ваеннага вучылішча напоўнілася гулам апладысментаў, калі туды ўвайшоў Іван Сяргеевіч. Павіншаваць юбіляра прыйшлі яго былыя вучні, сябры, калегі, сувораўцы і людзі, якія проста чулі пра лёс гэтага цудоўнага чалавека.

Нарадзіўся Іван Салдаценкаў на Магілёўшчыне. У 1930 годзе скончыў педагагічны тэхнікум і хутка зразумеў, што не памыліўся ў выбары прафесіі. У 1938 годзе, пасля заканчэння педінстытута ў Маскве, Іван Сяргеевіч узначаліў аддзел адукацыі ў Тувінскай АССР. Вялікую Айчынную вайну прайшоў ад камандзіра сапёрнага ўзвода да камандзіра батальёна. Тройчы паранены, неаднаразова кантужаны, у 1945 годзе ён быў інвалідам II групы.

Але настаўнік па прызванні, заслужаны франтавік не пайшоў на адпачынак – бо ён і ваяваў, каб потым вучыць міру. Чатыры гады І.Салдаценкаў арганізоўваў адукацыю ў разбітай Германіі, пасля гэтага выкладаў у Курскім СВВ. А як толькі суворaўскае вучылішча адкрылі ў Мінску, прыехаў у родную Беларусь. Тут ён быў настаўнікам хіміі і біялогіі, юнакам у ваеннай форме прысвяціў 25 гадоў выкладчыцкай працы.

...Авацыі перапыніялі і перапынялі віншавальныя выступленні. У гэты дзень усім было што сказаць. Міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў, былы суворавец, прыгадаў, як Іван Сяргеевіч тлумачыў свой прадмет у вершах. Першы кіраўнік ваеннага ведамства Беларусі генерал-палкоўнік у адстаўцы Пётр Чавус расказаў, што "хімія Салдаценкава" ў выхаванцаў суворaўскага вучылішча заўсёды была любімым прадметам, на які ішлі з ахвотай і спадзяваннем на новыя веды.

Падарункі, кветкі, урачысты канцэрт... Прывітанняў было столькі, што іх нават не зачытвалі. І толькі адзін чалавек увесь час маўчаў. Ціха ўсміхаўся і маўчаў. Потым, калі яго папрасілі да мікрафона, устаў і проста прачытаў свой новы верш. Напрыканцы Іван Сяргеевіч папрасіў усіх запомніць слова "мэтанакіраванасць" і мець яго на ўвазе ўсё жыццё.

Але мне запомнілася іншае. Я і цяпер успамінаю вочы Івана Сяргеевіча Салдаценкава, з якіх праменяцца цяпло і дабрыня. А яшчэ запомніліся два радкі з яго верша:

*Я хотел бы, чтоб потомки*
*Жизнь любили, как и я...*

Іван Сяргеевіч зараз працуе над выданнем трох сваіх кніг. У бліжэйшай будучыні заслужаны настаўнік БССР плануе закончыць навукова-даследчую работу. І ў свае 90 гадоў ён – у страі!

**Канстанцін ГАГАРЫН.**




НА ЗДЫМКАХ: юбіляра віншуюць Міністр абароны Рэспублікі Беларусь Леанід Мальцаў і былы Міністр абароны Беларусі Пётр Чавус.

**Фота Ігара МАТОХІ.**

Моладзь супраць СНІДу

# "Прадоўжы дзецям радасць жыцця"

***Пад такім дэвізам вось ужо некалькі гадоў запар праходзіць адзін з месяцаў у Мінскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы №221 кулінарыі. Пазавучэбныя мерапрыемствы і акцыі прысвечаны галоўнай тэме - прафілактыцы СНІДу. Актыўны ўдзел у інфармацыйных дыспутах, конкурсах, віктарынах і вечарах прымаюць першакурснікі. Некаторыя з іх толькі ў вучылішчы пачынаюць усведамляць, што такое ВІЧ-інфекцыя, як яна перадаецца і ці можна абараніцца ад гэтага грознага і пакуль невылечнага захворвання.***

Адкрыццём для моладзі сталі і такія факты: на ўліку ў Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІДу з дыягназам "ВІЧ-інфекцыя" знаходзяцца 30 дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў, з іх трое памерлі ад СНІДу. Двое ВІЧ-інфіцыраваных дзяцей прыехалі на сталае месца жыхарства да нас з Расіі. 23 дзіцяці хваробу атрымалі ў "спадчыну" ад ВІЧ-інфіцыраваных мацi. Малых выхоўваюць як бацькі, так і апекуны – бабулі, цёткі. Бацькі гэтых дзяцей адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі за крадзяжы і распаўсюджванне наркотыкаў.

Лёс ВІЧ-інфіцыраваных – незайздросны і вядомы загадзя. Сусветная статыстыка – больш чым песімістычная: многія з іх проста не дажываюць да паўналецця.

Які жорсткі і несправядлівы лёс да безабаронных дзяцей, як не хочацца верыць у трагічны зыход! Пра тое, што дзеці невылечна хворыя, ведаюць бацькі і ўрачы, але толькі не самі малыя, бесклапотныя і цікаўныя, як і ўсе ў такім узросце. Пакуль хвароба не заявіла пра сябе, яны ходзяць у дзіцячыя сады і школы, з нецярпеннем чакаюць прагулак і гульняў на марозным паветры і, вядома, падарункаў ды гасцінцаў да Новага года і Калядаў.

Будучыя афіцыянты, кухары і кандытары з 16 вучэбных груп штогод выступаюць з ініцыятывай: парадаваць хворых дзяцей падарункамі. Летась гэта былі канструктары, сёлета па тых жа адрасах раз'ехаліся яркія і пушыстыя мяккія цацкі – мышкі, каты, мядзведзі, сабачкі.

ВІЧ-інфіцыраваныя дзеці не адказваюць за грахі і памылкі сваіх бацькоў, але яны апынуліся ў бядзе і маюць патрэбу ў нашых з вамі спагадзе ды падтрымцы. Дабрыню і міласэрнасць вось ужо не першы год праяўляюць да іх вучні агульнаадукацыйных школ Кастрычніцкага раёна сталіцы. Самі яшчэ дзеці, яны ўдзельнічаюць у дабрачынных канцэртах, а на сабраныя грошы закупляюць ВІЧ-інфіцыраваным малым падарункі. І чаго тут толькі няма: прыгажуні-лялькі і розныя аўтамашыны, алоўкі і фламастары, дыдактычныя гульні і кніжкі з карцінкамі. Усё гэта прыносіць дзецям радасць і стварае свята, чаго ім так не хапае ў штодзённым жыцці з невылечна хворымі. Кіруе дабрачыннай акцыяй Тамара Рыгораўна Баранава – арганізатар Кастрычніцкага раённага аддзела адукацыі, яна ладзіць гэтае мерапрыемства і непасрэдна ў ім удзельнічае. Яе намаганні выклікаюць удзячнасць.

Дапамогу ВІЧ-інфіцыраваным дзецям аказвае і Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Беларускі КВЗ". Пры правядзенні фінальнай гульні на атрыманую ад продажу білетаў частку грошай былі закуплены вітаміны.

Вядома, вельмі важным кампанентам прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі з'яўляюцца медыцынскія мерапрыемствы, але цяжка пераацаніць значэнне псіхалагічнай, сацыяльнай і грамадскай дапамогі.

– Па просьбе сем'яў, у якіх жывуць і выхоўваюцца хворыя дзеці, – гаворыць Валянціна Быкава, загадчыца прафілактычнага аддзялення РЦП СНІД, – сардэчна дзякуем усім за неабыякавасць, клопат і дабрыню. Смяротна небяспечная хвароба пагражае ўсім людзям на Зямлі. Сёння выратаванне чалавецтва – у прафілактыцы і максімальным распаўсюджванні ведаў пра ВІЧ-інфекцыю сярод насельніцтва. Нам даводзіцца навучыцца не толькі процістаяць хваробе, але і жыць побач з людзьмі, якія хворыя. Гуманнае стаўленне да іх – гэта ўжо не словы, а канкрэтныя справы і ўчынкі. Па сутнасці, мы ўсе здаем экзамен на чалавечнасць. Толькі ў рэальным жыцці зрабіць гэта значна цяжэй, чым у вучэбнай аўдыторыі.

Усяго з моманту рэгістрацыі першых выпадкаў ВІЧ-інфекцыі ў рэспубліцы ад ВІЧ-інфіцыраваных маці нарадзілася каля 200 немаўлят. Адным страшны дыягназ ужо пастаўлены. Другія яшчэ чакаюць вынікаў: толькі пасля 18 месяцаў можна з упэўненасцю сказаць, хворае дзіця або не. Як гэта ні сумна, але такіх немаўлят з кожным годам у нас становіцца больш... Асаблівыя спадзяванні ўскладваюцца на вакцыну, над стварэннем якой працуюць вучоныя розных краін. Дзякуючы ёй і ў беларускіх дзяцей паявіцца надзея на здаровую будучыню.

**Святлана БАРАННІКАВА.**

Новыя адукацыйныя тэхналогіі

# Лекі ад пасіўнасці

***У Мінскім прафесійна-тэхнічным каледжы паліграфіі распачата эксперыментальная работа па тэме "Арганізацыя адукацыйнага працэсу на аснове модульнага праектавання вучэбных курсаў і ўзроўневай сістэмы ацэнкі засваення ведаў, уменняў і навыкаў". А першымі прывезлі модуль ва ўстанову шведскія калегі, удзельнікі праекта па модульных тэхналогіях Еўрапейскага фонду адукацыі. Прывезлі модуль пагасціць, а ён і прыжыўся.***

Калі гаварыць у цэлым аб эксперыментальнай рабоце ў сістэме прафтэхадукацыі сталіцы, дык ёю ахоплены амаль усе ўстановы. У большай меры эксперыментуюць прафесійна-тэхнічныя каледжы. І гэта не дзіўна. Новы статус вымагае новых патрабаванняў да якасці прафесійнай адукацыі. А дасягнуць гэтага без укаранення новых педтэхналогій немагчыма.

У загадзе ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама аб інавацыйным руху па апрабацыі тэхналагічных праектаў паліграфічны каледж у спісе – у ліку першых.

Працаваць у рэжыме эксперыменту для яго – нармальная з'ява. Паліграфія ўвогуле – галіна своеасаблівая, якой няма аналагаў у вытворчасці. Няма аналагу і паліграфічнай установе. Яна – адзіная ў рэспубліцы. Таму і натуральна, што яе база стала дзеючай эксперыментальнай пляцоўкай і для модульнай тэхналогіі.

Так званы модуль нарадзіўся не ўчора. І тое, што модульная тэхналогія нарэшце прыйшла ў калектывы ПТА, можна толькі вітаць.

Дзесяткі гадоў яе выкарыстоўваюць краіны Прыбалтыкі, Расіі, Захаду. У нас жа больш практыкуюць традыцыйныя прыёмы навучання.

Каб зразумець, якая ж карысць ад новай тэхналогіі модуля, трэба акрэсліць самую яе сутнасць.

А яна ў тым, што навучальны працэс павінен быць скіраваны на асобу навучэнца, на павышэнне яго самастойнасці. На жаль, пры традыцыйных тэхналогіях на ўроку ўсё ж пануе пасіўнасць. Выкладчык працуе на масу. Вось і атрымліваецца, што вучацца ў класе 2–3 чалавекі, а астатнія, мякка кажучы, не паспяваюць за агульным навучальным працэсам і проста "адседжваюць" урок.

Што прапануе ў гэтым плане модульная тэхналогія?

Як патлумачыла метадыст каледжа Людміла Міхайлаўна Каваленка, модуль уяўляе сабой такі інфармацыйны блок, куды ўваходзяць мэтавы план дзеянняў, змест вучэбнага матэрыялу і настаўленне па яго засваенню. Важным крытэрыем пабудовы модуля з'яўляецца структурыраванне дзейнасці навучэнца ў этапы набыцця ведаў: успрыманне, разуменне, асэнсаванне, запамінанне, прымяненне, абагульненне і сістэматызацыя.

У кожным модулі задаецца інтэграваная дыдактычная мэта. Яна вызначае не толькі аб'ём вывучанага матэрыялу, але і ўзровень яго засваення. І гэта дапамагае надаць дзейнасці навучэнца асэнсаванасць. Ён атрымлівае парады, як рацыянальна дзейнічаць, дзе знайсці патрэбны матэрыял. Папярэдне неабходна абавязкова праводзіць уводнае тэсціраванне, каб ацаніць узровень апорных ведаў. Модульная праграма ўяўляе сабою сукупнасць модуляў па тэме альбо раздзелу.

Што характэрна, кіраванне вучэбным працэсам ажыццяўляецца ў выглядзе ўказанняў выкладчыка. Напрыклад: "прачытай гэты тэкст і паўтары", "перапішы гэта слова", "знайдзі на графіку кропку", "падумай", "даследуй і выпішы галоўнае", "успомні", "пазнаёмся" і шэраг іншых.

Як сцвярджае выкладчык спецтэхналогіі Ала Сцяпанаўна Патокская, пераход на модульнае навучанне – справа складаная як для педагога, так і для навучэнца. І яна мае рацыю, бо займаецца модульнай тэхналогіяй ужо доўгі час. Яе распрацоўка па спецтэхналогіі "Таваразнаўства мастацкай літаратуры, сістэматызацыя і распрацоўка матэрыялаў на модульнай аснове" была лепшай на гарадскіх педагагічных чытаннях.

Складанасць пераходу на модуль можна патлумачыць прынцыпова новым зместам падрыхтоўкі выкладчыка да вучэбных заняткаў. Выкладчык аналізуе свой вопыт, веды, уменні, займаецца пошукам больш дасканалых тэхналогій, праводзіць вялікую дадатковую работу. Акрамя таго – ён павінен вельмі добра ведаць сваіх выхаванцаў, каб дакладна вызначыць для іх модуль. Галоўнае, каб у кожнага навучэнца была рэальная магчымасць вучыцца ў сваім, патрэбным толькі яму тэмпе, мець выбар зместу і спосабаў засваення матэрыялу.

Выкладчык выступае пры гэтым у ролі кансультанта, а ўсё навучанне пераводзіцца на самастойнае засваенне. Калі практычна ўявіць модульную тэхналогію, – зазначае А.С.Патокская, – то яна прадвызначае разбіўку матэрыялу на асобныя закончаныя блокі, якія могуць быць прадстаўлены ў рамках адной тэмы. Цікава, што модулі па тэмах могуць быць выкарыстаны пры вывучэнні нават некалькіх спецыяльнасцей, напрыклад, друкара ці пераплётчыка.

Навучэнец атрымлівае ад выкладчыка модульную праграму засваення пэўнага блока, дзе ёсць інструкцыі выкладчыка, як вывучыць пададзены матэрыял самастойна, часткова самастойна, з дапамогай выкладчыка, дадатковай спецыяльнай літаратуры і г.д.

Карыстаючыся гэтай праграмай, можна выконваць неабходныя заданні па тэме, весці самаправерку. Калі што не ўдаецца, выкладчык рэкамендуе, як здабыць патрэбную інфармацыю.

У канчатковым выніку выкладчык праводзіць тэсціраванне па засваенню навучэнцам гэтага модуля.

– Што тычыцца ўкаранення модульнай тэхналогіі ў навучальны працэс нашага каледжа, – гаворыць намеснік дырэктара Ганна Уладзіміраўна Вераціла, – то, безумоўна, ёй папярэднічала грунтоўная арганізацыйная работа.

Ганна Уладзіміраўна паказвае праграму эксперыментальнай работы, дзе дакладна вызначаны адпаведныя этапы. Мэта кожнага этапа – абгрунтаванне актуальнасці педагагічнай інавацыі, распрацоўка праграмна-метадычнага забеспячэння, стварэнне неабходных умоў для правядзення эксперыментальнай работы.

У эксперыментальны працэс была ўключана большасць выкладчыкаў і майстроў вытворчага навучання. Яны задзейнічаны ў вывучэнні метадычнай літаратуры па тэхналогіі модульнага навучання, у распрацоўцы планаў укаранення і рэкамендацый па стварэнню модульных праграм. Рэгулярна папаўняецца новымі звесткамі інфармацыйны банк "Модульная тэхналогія".

На сённяшні дзень у каледжы праведзена некалькі семінараў па аналізу і абагульненню ўжо набытага вопыту. Выкладчыкі агульнаадукацыйных дысцыплін (хіміі, фізікі, біялогіі, геаграфіі) правялі адкрытыя ўрокі з модульнай тэхналогіяй. Індывідуальны падыход педагога да кожнага зрабіў сваю справу: відавочна павысілася актыўнасць падлеткаў у набыцці ведаў. І, можа, модуль стане для навучэнцаў каледжа лекамі ад пасіўнасці? Адметна і тое, што ў эксперыментальную работу ўключыліся ўчарашнія выпускнікі каледжа, якія амаладзілі педкалектыў амаль напалову. Эксперымент для іх – не проста выпрабаванне, а той новы стыль педагагічнай работы, які патрэбны сёння творчаму педагогу.

**Ала КЛЮЙКО.**

Погляд

# Ці цяжка з "цяжкімі"?

***"Трудный ребёнок" - гэтая звыклая рускамоўная "фраза" зразумелая ўсім у школе.***
***"Цяжкае дзіця" на роднай мове гучыць іначай: з няўлоўным сэнсавым адценнем. "Гэтае словазлучэнне, - казалі мае "цяжкія" выпускнікі, - патрабуе паяснення. Для каго мы цяжкія?"***

Так, для каго? Бацькоў, настаўнікаў, грамадства? "Педагагічна-запушчаныя дзеці" – гучыць на сходах афіцыйная назва гэтых школьнікаў. А я разумею іх як "цнатлівых падранкаў, як вынік сямейнага бязладдзя, бессямейнага існавання, школьнікаў стомленасці, безвыходнасці вечнага папроку...

Дзевяты "3" клас, 12 хлопчыкаў і тры дзяўчынкі. З першага класа ў такім складзе, бо гэта – дзеці "павышанай педагагічнай увагі". Урок фізікі. З напускной напружанасцю прыслухоўваюцца да тлумачэння задачы строгай настаўніцай.

– Зразумела?!

– Не! – не вытрымлівае нервовы падлетак.

– Добра. Вернемся да ўмовы задачы.

– Навошта? Усё роўна не дойдзе, хоць сто разоў паўтарайце. Хто іх прыдумаў? – не супакойваецца ён. – Трэба мне вашая фізіка!

– Як можаш ты так гаварыць? Я ж – настаўніца! – у роспачы павышае голас Рэгіна Аляксандраўна. – Ты абражаеш усіх нас!

– Няхай тлумачыць – нешта дойдзе, – умешваецца стрыманы Віталь.

– Ды расстраляць вас тут усіх трэба! – гукае хлопец, бразгае дзвярыма, выбягаючы з класа.

Урок сарваны. Усе ледзьве стрымліваюцца, чакаючы званка.

На школьным калідоры шумна, але настаўніца, не звяртаючы ўвагі, гукае мне:

– Усё, досыць! Больш да вашых не пайду. Вучыце іх самі.

– Прабачце ім, такое не паўторыцца. Тэрмінова разбярэмся, – апраўдваюся я.

Парушальнік стаіць ля сцяны і адчувае сябе пераможцам. Заходзім з ім у клас. Гоман, узрушаныя галасы, воклічы:

– Так, ён сказаў гэта, але нам, не ёй! Яна не зразумела. Ды і што вы хочаце:

мы ж – 9 "3" – дурні! – смеючыся, дадае жартаўнік.

І тут я не вытрымала – узарвалася, закрычала. Слоў не памятаю, а што прыпомніла ўсіх жывых і памерлых для прыкладу ў выхаванні – гэта было. Спынілася, калі адчула, што цямнее ў вачах. Апусцілася на крэсла, адвярнулася. Слёзы пакаціліся самі. Змахнула цішком рукой, але ўжо не магла стрымацца. Задрыжэлі плечы.

– Нічога. Пакіньце, калі ласка, мяне, – прашаптала я.

Яны натоўпам хуценька выйшлі. Праз некалькі хвілін пачула стук у дзверы:

– Можна?

Я шпарка адышла, не паварочаваючыся, у другі вугал.

– Вера Андрэеўна, – задрыжэў знаёмы голас. Падлетак ударыў сябе ў грудзі: – Ніколі вас больш не падвяду. Даруйце, апошняе маё слова!..

...Прайшоў хуткі школьны год. Усе мае "цяжкія" здалі экзамены за базавую школу, атрымалі свае "корачкі". Я ведала, хто куды будзе паступаць, і запаўняла чарговую ведамасць. І раптам у пусты клас прасоўваецца галава таго ж Дзімы.

– Можна вас?

– Заходзь. Нешта трэба, Дзіма?

– Так, характарыстыку для начальства.

– Я ж пісала яе табе раней, у дзевятым класе.

(Ён быў пераросткам – не раз пакідалі на паўторны год у пачатковых класах).

– Ведаю, але ж я маю права на кіраванне аўтамабілем – з бацькам-шафёрам з маленства за рулём. Мяне бяруць начальства вазіць.

– Генерала? – не ўстрымалася я.

– Не, палкоўніка, – сур'ёзна адрэагаваў ён. – А ў вашай характарыстыцы напісана ... як там... я завучыў на памяць... вось: "Добры хлопец, але часам у паводзінах балансуе на мяжы небяспечнага". Прыбярыце гэты сказ, а то ніхто не разумее, і сказалі па-новаму перапісаць, – з надзеяй ускінуў ён ласкавыя вочы.

– Але ж гэта яшчэ мякка сказана пра цябе. Праца, дакладней, служба будзе адказная, а раптам не туды завязеш свайго палкоўніка, а мяне пасадзяць, – пажартавала я.

– Зрабіце, калі ласка, заўтра раніцай зайду.

– Ну, добра, падумаю. А ці падпіша дырэктар?

– Я сам пайду да яго, – з упэўненасцю закончыў ён.

На гэтым развіталіся. Школьныя справы – рамонт класа, дакументы – захапілі ўвесь час. Успомніла пра характарыстыку, калі пачула голас па тэлефону вечарам. У мяне, як у вучня каля дошкі, ёкнула ў сярэдзіне – абяцала, не зрабіла!

– Прабачце, не трэба вам пісаць. Падумаў – лепш салдатам у страі служыць буду. Так – яно спакайней. А вы адпачывайце – ваша служба ўжо закончылася: канікулы, – і радасна дадаў: – Заслужылі!

Ці цяжка з "цяжкімі"? Час пакажа. А колькі іх, недатыкальна-цнатлівых для педагогікі, прайшло перад вачыма! Выйшлі людзьмі ў вялікае жыццё, замацаваліся, і толькі некаторыя згубіліся ў ім.

Педагагічныя памылкі відаць здалёк. Поспехі – таксама.

**Вера ІВАШКА,**
**настаўніца.**

Давайце абмяркуем

# Вопыт плюс увага дзяржавы

***Нягледзячы на шматлікія навуковыя пошукі, практычную дзейнасць педагогаў рэспублікі праблема арганізацыі выхаваўчай работы ў рамках школьнай адукацыі, павышэння яе эфектыўнасці застаецца самай вострай і складанай.***

У нашай краіне створана нарматыўна-прававая база, якая дазваляе ўсім зацікаўленым структурам ажыццяўляць выхаваўчую работу на ўсіх ступенях адукацыі чалавека: у дашкольных і пазашкольных установах, школах, у працэсе пасляшкольнага навучання. Больш за тое, Канцэпцыя выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі, рэспубліканская праграма "Дзеці Беларусі" і праграма патрыятычнага выхавання дазволілі нам стварыць рэгіянальную сістэму выхаваўчай работы, якая ўвасобілася ў школьныя праграмы выхавання.

Пры іх распрацоўцы педагагічныя калектывы Ельшчыны зыходзілі з таго, што ў раёне няма ніводнага населенага пункта, які б знаходзіўся ў зоне забруджання менш як 1 кюры на квадратны кіламетр, у сувязі з чым экалагічнае выхаванне неабходна вызначаць як адзін з асноўных напрамкаў дзейнасці ўстаноў адукацыі.

Рэалізацыя ўсіх пунктаў праграмы стала магчымай пры падтрымцы раённай інспекцыі аховы навакольнага асяроддзя і прыродных рэсурсаў. Сумесна з ёй тры гады назад сярэдняя школа №2 Ельска была прызнана базавай па экалагічным выхаванні і стала своеасаблівым раённым вучэбна-метадычным цэнтрам. З дапамогай педагогаў і вучняў гэтай школы пры дзвюх дашкольных установах і трох школах створаны "экалагічныя сцяжынкі", ідзе падрыхтоўчы этап арганізацыі школьнага лясніцтва.

Вынікі дзейнасці вучняў па прапагандзе экалагічных ведаў, ахове прыроднага багацця роднага краю былі прадэманстраваны ў ходзе рэспубліканскай акцыі "Дзень Зямлі. Беларусь, 2001", дзе адзін з дванаццаці прадстаўленых праектаў адзначаны дыпломам першай ступені. Гэта яшчэ раз пацвердзіла, што работа ў такім напрамку – перспектыўная і, што самае галоўнае, карысная ўсім.

Сацыяльна-эканамічныя і экалагічныя ўмовы жыцця ў апошняе дзесяцігоддзе адмоўна паўплывалі на здароўе падрастаючага пакалення. Значна павялічылася колькасць дзяцей з хранічнай паталогіяй і функцыянальнымі адхіленнямі. Так, у адной са школ нашага раёна вучонымі былі абследаваны дзевяноста вучняў на ўзровень знаходжання радыенуклідаў у арганізме. Вынікі атрыманы наступныя: да сарака бекерэль на кілаграм (гэта дапушчальная норма) мелі 10 вучняў, больш за 100 бекерэль на кілаграм – 41 вучань. Аналагічныя лічбы атрыманы яшчэ ў трох школах раёна. Лічу, што праблема здароўя дзяцей павінна вырашацца на дзяржаўным узроўні. У першую чаргу неабходна распрацоўка рэспубліканскай праграмы "Здаровы лад жыцця дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту". Прапаганда здаровага ладу жыцця, развіццё масавай фізкультуры і спорту па месцы жыхарства таксама павінны стаць правілам, а не выключэннем з яго.

Апошнім часам актывізавалі сваю дзейнасць дзіцячыя і маладзёжныя арганізацыі і аб'яднанні. Так, і ў нашым раёне дзейнічаюць атрады Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі, пярвічныя арганізацыі Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. І вельмі перспектыўнай, на думку педагогаў, з'яўляецца клубная форма работы з вучнямі. Калі яшчэ два гады назад мы рабілі толькі першыя крокі па шляху стварэння клубаў па інтарэсах, то цяпер ужо пяць клубаў аб'ядноўваюць больш як дзвесце дзяцей. Асноўныя напрамкі дзейнасці – фарміраванне гуманістычных адносін да навакольнага свету і выхаванне нацыянальнай самасвядомасці.

У чым мы бачым станоўчыя моманты такой справы? У першую чаргу гэта магчымасць у невялікіх групах аднадумцаў дасягаць пастаўленых мэт. Групы гэтыя не стацыянарныя, што дазваляе дзецям свабодна шукаць сваё "Я", на кожным новым этапе работы праяўляць свае магчымасці і здольнасці. Ва ўмовах клубнай занятасці педагагічная апека дзяцей – мінімальная, гэта дапамагае выхоўваць у падлеткаў адказнасць, ініцыятыўнасць і актыўную жыццёвую пазіцыю.

У сучасных умовах нельга чакаць істотных вынікаў выхаваўчай работы, калі самі дзеці будуць толькі спажыўцамі педагагічнай творчасці дарослых. Нягледзячы на тое, што школа вучыць жыць сумленна, рабіць дабро, любіць Радзіму, дзеці, як толькі выходзяць за школьны парог, сутыкаюцца з культам насілля, ілжывых каштоўнасцей, з разбэшчанасцю. І хаця неаднаразова педагагічная грамадскасць рэспублікі ў сродках масавай інфармацыі звяртала ўвагу на неабходнасць старанная адбору праграм для паказу па нацыянальным тэлеканале, а таксама на абнаўленне вучэбных праграм – змен да лепшага пакуль няма.

Лічу, што палажэнне аб класным кіраўніку не садзейнічае павышэнню аўтарытэту апошняга. Пагадзіцеся, сумяшчаць функцыі настаўніка-прадметніка і класнага кіраўніка ў сённяшніх умовах вельмі складана, а часам проста немагчыма, асабліва ва ўмовах сельскай школы, калі радыус мікрараёна школы складае дзесяць-пятнаццаць кіламетраў. І менавіта таму нашы дзеці шмат страчваюць, застаючыся пасля ўрокаў у большасці выпадкаў сам-насам або на вуліцы, дзе класнага кіраўніка яму замяняюць старэйшыя "сябры". Вось і заяўляюць пра сябе на поўны голас сацыяльнае сіроцтва, бадзяжніцтва, дзіцячая злачыннасць і п'янства.

Безумоўна, пытанні арганізацыі выхаваўчай работы ў сістэме адукацыі былі, ёсць і будуць самымі важнымі. Бо нават у краінах, дзе ў вырашэнні праблем выхавання аб'ядноўваюцца намаганні сям'і, царквы і грамадскасці, заўсёды застаецца незадаволенасць станам спраў у гэтай галіне. А паколькі школа – адзін з самых дзейсных інстытутаў выхавання, дык і працаваць нам, педагогам, трэба будзе шмат. Але ж гэта жыццёва неабходна нашаму грамадству.

**Віктар АМЯЛЬЧУК,**
**загадчык Ельскага раённага аддзела адукацыі Гомельскай вобласці.**

Нам пішуць вучні

# Дзякуй за тое, што вы ёсць

***Калі гавораць пра сучасную школу, уяўленне малюе светлае, прасторнае памяшканне, абсталяванае найноўшай тэхнікай, утульныя класы, запоўненыя зручнай мэбляй. Але ўсё гэта адыходзіць на аддалены план, калі думаеш пра асобу настаўніка і тую атмасферу, якая будзе панаваць у школьным калектыве. І гэта, напэўна, важней, таму што школа не толькі вучыць, але і выхоўвае.***

Сёння гавораць пра школу дабра – школу, у аснову якой закладзена духоўна-маральнае выхаванне. Гэта значыць, што праца настаўніка павінна быць накіравана на выхаванне ў нас высокай маральнасці, любві і чысціні.

Толькі чалавек з добрым і спагадлівым сэрцам, які ўмее зразумець і дараваць, неабыякавы да чужога болю, зможа сваім асабістым прыкладам уздзейнічаць на таго, хто побач, павесці за сабой. Такой асобай павінен быць настаўнік, чалавек, які па-сапраўднаму любіць дзяцей і сваю працу. Ён не проста дае ўрок, ён найперш памочнік і дарадца, з ім лёгка і проста. І самая складаная тэорыя з добрай усмешкай такога настаўніка і бадзёрым позіркам стане зразумелай і даступнай.

У нашай Красненскай сярэдняй школе шмат таленавітых і добрых настаўнікаў. У кожнага з іх – свой стыль выкладання, свая манера ўзаемін. Але галоўнае ў працы – душэўная цеплыня і чуласць у адносінах.

Дырэктар школы Раіса Раманаўна Краўцова прайшла ўвесь шлях станаўлення разам са школай – настаўнік базавай школы, потым намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце і, нарэшце, дырэктар сярэдняй эксперыментальнай школы.

Раіса Раманаўна любіць школу. Гэта адчуваецца па яе стаўленні да вучняў і дарослых. Яе любоў дапамагае ёй разумець духоўны свет вучня, успрымаць дзіця такім, якое яно ёсць, шчыра радавацца і суперажываць, аказваць дапамогу і падтрымку словам і справай.

Шмат душэўнай цеплыні аддае вучням і настаўніца матэматыкі Таццяна Пятроўна Кажамякіна. Яна для нас прыклад адданасці школе і шчырасці ва ўзаемінах.

Любяць вучні і настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Людмілу Міхайлаўну Волкаву. Заўжды яна цікавіцца поспехамі вучняў, яе хвалююць іх праблемы. Людміла Міхайлаўна стараецца дапамагчы кожнаму, хто да яе звяртаецца. Зрэшты, усе настаўнікі ў нашай школе такія.

Дзякуй за тое, што вы ёсць, дарагія настаўнікі.

**Алена КРАСНІЧЭНКА,**
**вучаніца 10 "А" класа Красненскай сярэдняй школы Гомельскага раёна, член гуртка "Юны журналіст".**

# Дзесятковыя дробы: рацыянальнае і нерацыянальнае

***Сёння на старонцы "Методыка" мы прадстаўляем вашай увазе план-канспект урока па матэматыцы ў 5-м класе. Урок па модульнай тэхналогіі распрацаваны настаўніцай матэматыкі 171-й сталічнай гімназіі Любоўю Уладзіміраўнай Грыцкевіч, якая з ахвотай пагадзілася дапамагчы настаўнікам, што працуюць па модульнай тэхналогіі або толькі пачынаюць.***

## Модуль-3 (М-3)

### Складанне і адніманне дзесятковых дробаў

**Ведаць:** правіла складання і аднімання дзесятковых дробаў; уласцівасцямі складання і аднімання можна карыстацца і пры складанні і адніманні дзесятковых дробаў.

**Умець:** выконваць складанне і адніманне дзесятковых дробаў; выкарыстоўваць уласцівасці складання і аднімання пры рашэнні заданняў; прымяняць веданне складання і аднімання дзесятковых дробаў пры рашэнні задач.

### Вучэбны элемент-0 (ВЭ)

**п.1.** Уважліва вывучы ВЭ-1, правіла, выдзеленае тлустым шрыфтам, вывучы напамяць.

**п.2.** Выканай практычную частку №1.

**п.3.** Правер свае адказы па дадатку №1. Калі адказы супалі, то пераходзь да п. 4. Калі адказы не супалі, то пераходзь да п.1. У выпадку цяжкасцей звярніся да настаўніка.

**п.4.** Уважліва вывучы ВЭ-2, паўтары яшчэ раз усе ўласцівасці складання і аднімання.

**п.5.** Выканай практычную частку №2.

**п.6.** Правер свае адказы па дадатку №2. Калі адказы супалі, то пераходзь да п.7. Калі адказы не супалі, то пераходзь да п.4. Калі ўзнікаюць цяжкасці, звярніся да настаўніка.

**п.7.** Выканай самастойную работу №1.

**п.8.** Пастаў сабе адзнаку за самастойную работу ў лісток самакантролю, правяраючы свае адказы па дадатку №3.

Калі ўсе 20 заданняў выкананы правільна, то пастаў сабе "5".

Калі 18 або 19 заданняў выкананы правільна, то пастаў сабе "4".

Калі 16 або 17 заданняў выкананы правільна, то пастаў сабе "3".

У астатніх выпадках - "2".

**п.9.** Калі ты паставіў сабе "5", то ты малайчына! Пераходзь да п.10.

Калі ты паставіў сабе "4", гэта добра, але спачатку зрабі работу над памылкамі. Калі ўзнікаюць цяжкасці, звяртайся да настаўніка. Як толькі выканаеш работу над памылкамі, пераходзь да п.10.

Калі ў цябе адзнака ніжэй чым "4", не адчайвайся. Памятай: дарогу адолее той, хто ідзе! Табе неабходна вярнуцца да п.1 і пачаць усё спачатку. Удачы табе! У выпадку цяжкасцей звяртайся да настаўніка, і я буду рада табе дапамагчы.

**п.10.** Рашы ўраўненні №1211 (г, д, е)

**п.11.** Правер свае адказы па дадатку №4. Калі адказы не супадаюць, то пастарайся знайсці памылкі. У выпадку цяжкасцей звяртайся да настаўніка. Пастаў сабе адзнаку ў лісток самакантролю за гэтую работу.

**"5"** - калі ўсё выканана правільна і рацыянальна;

**"4"** - калі ўсё зроблена правільна, але нерацыянальна;

**"3"** - калі 2 адказы правільныя.

У іншых выпадках - **"2"**.

**п.12.** Рашы задачы №1189, 1193, 1194, 1195, 1197, 1198

**п.13.** Параўнай свае рашэнні з рашэннямі ў дадатку №5.

Калі рашэнні падобныя і адказы супалі, то пастаў сабе **"5"** у лісток самаправеркі і пераходзь да п.14.

Калі не супаў адказ у адной задачы, то зрабі работу над памылкамі, пастаў сабе **"4"** у лісток самаправеркі і пераходзь да п.14.

Калі ты справіўся менш чым з пяццю задачамі, то паглядзі, якія ў цябе памылкі і, калі зможаш, зрабі работу над памылкамі.

У выпадку, калі ты не ведаеш, як рашаць якую-небудзь задачу або не можаш знайсці сваю памылку, звярніся да настаўніка.

**п.14.** Атрымай у настаўніка кантрольны тэст.

***Самастойная работа №1***

Выканай дзеянне:

1. 0,26+0,45=
2. 0,93+1,5079=
3. 8,003+12,707=
4. 0,251+47,749=
5. 75+0,25=
6. 6,28-5,32=
7. 0,456-0,376=
8. 30-0,0058=
9. 1-0,998=
10. 2,056-1,96=
11. 5,27+4,2+0,628=
12. 0,04+21,2637+8+0,7963=

Выканай найбольш зручным спосабам:

13. 0,27+(1,78+5,73)=
14. 21,49+73,674+31,51=
15. (1,777+9,878)+2,223=
16. 37,45-(26,45+8,888)=
17. 6,73-(4,73+0,87)=
18. 9,14-5,67-2,33=
19. 13,88+8,46-2,46=
20. 23,63+9,78-2,63=

### Тэст да М-3

**Варыянт 1**

1. Выканайце дзеянні:
а) 56,31-24,246-(3,87+1,03)=
б) 100-(75+0,86+19,34)=

2. Хуткасць катэра супраць цячэння 11,3 км/г. Хуткасць цячэння 3,9 км/г. Знайсці ўласную хуткасць катэра і яго хуткасць па цячэнні.

3. Спрасціце выраз:
а) 4,41+х+2,59=
б) у-3,18-3,62=

4. Знайдзіце значэнне выразу, прымяняючы ўласцівасці складання і аднімання:
а) (151,324+17,09)+48,676=
б) 11,257+3,948+1,052=
в) (17,392+15,869)-15,569=
г) 17,32-1,92-1,08=

5. Мама купіла 4 піроЖныя. Заплаціўшы за іх, яна атрымала 40 р. рэшты. Калі б мама купіла 6 піроЖных, то ёй бы давялося даплаціць 40 р. Колькі каштуе 1 пірожнае?

**Варыянт 2**

1. Выканайце дзеянні:
а) 61,35-49,561-(2,69+ +4,01)=
б) 1000-(0,72+81-3,968)=

2. Хуткасць катэра па цячэнні 42,8 км/г. Хуткасць цячэння 2,8 км/г. Знайсці ўласную хуткасць катэра і яго хуткасць супраць цячэння.

3. Спрасціце выраз:
а) 3,68+х-1,58=
б) 3,8+с+4,7=

4. Знайдзіце значэнне выразу, прымяняючы ўласцівасці складання і аднімання:
а) (48,375+23,496)+7,504=
б) 3,84+7,59+1,16=
в) (14,548+12,835)-3,548=
г) 8,37-4,96-2,37=

5. На пакупку 6 значкоў у Каці не хапае 15 р. Калі яна купіць 4 значкі, то ў яе застанецца 5 р. Колькі грошай у Каці?

### Вучэбны элемент-1

**Ведаць:** правіла складання і аднімання дзесятковых дробаў

**Умець:** выконваць складанне і адніманне дзесятковых дробаў

Дзесятковыя дробы можна запісаць у выглядзе звычайных дробаў, таму правілы складання і аднімання для іх такія ж, як і для звычайных дробаў. Знойдзем суму

$$23{,}54+4{,}12=23\frac{54}{100}+4\frac{12}{100}=27\frac{66}{100}$$

роўна 27,66

Гэтую суму можна атрымаць пайншаму. Прынцып запісу дзесятковых дробаў такі ж, як і ў натуральных лікаў, таму складанне дзесятковых дробаў (як і адніманне) можна рабіць гэтак жа, як і натуральных лікаў, паразрадна, у слупок:

```
+23,54
   4,12
  27,66
```

**Правіла складання (аднімання) дзесятковых дробаў:**

Каб скласці (адняць) дзесятковыя дробы трэба:

1. Запісаць складаемыя (аднімаемае пад памяншаемым) так, каб коска была пад коскай.
2. Выканаць складанне (адніманне) па разрадах, як складанне (адніманне) натуральных лікаў.
3. У атрыманай суме (рознасці) коску паставіць пад коскамі ў складаемых (пад коскамі памяншаемага і аднімаемага).

Калі лікі маюць розную колькасць дзесятковых знакаў, то гэтую колькасць можна ўраўняць, прыпісаўшы да дзесятковага дробу справа нулі.

Прыклады:

а) 14,2+1,031=

```
 14,200
+ 1,031
 15,231
```

б) 14,2-1,031=

```
 14,200
- 1,031
 13,169
```

### Вучэбны элемент-2

**Ведаць:** што пры складанні і адніманні дзесятковых дробаў для зручнасці можна прымяняць уласцівасці складання і аднімання, якія вывучаліся раней.

**Умець:** прымяняць пры неабходнасці ўласцівасці складання і аднімання пры складанні і адніманні дзесятковых дробаў.

Нагадаем раней вывучаныя ўласцівасці складання:

**Перамяшчальная ўласцівасць** (перамяшчальны закон складання):

Ад перамены месцаў складаемых сума не мяняецца.

Формула гэтай уласцівасці: а+в=в+а

Для дзесятковых дробаў прывядзём прыклад, дзе зручна прымяніць перамяшчальную ўласцівасць:

4,7+146,984=146,984+4,7=146,984+4,700=151,684

**Спалучальная ўласцівасць** (спалучальны закон складання):

Калі ў нас ёсць тры і больш складаемыя, то неабавязкова выконваць складанне па парадку, а можна, напрыклад, скласці першае і трэцяе складаемае, а да іх сумы дадаць другое складаемае; а можна скласці другое і трэцяе складаемае, а да іх сумы дадаць першае складаемае.

Формула гэтай уласцівасці:

а+в+с=(а+с)+в= (в+с)+а

Для дзесятковых дробаў прывядзём прыклад, дзе зручна прымяніць спалучальную ўласцівасць:

2,71+4,8+0,19+2,2=(2,71+0,19)+(4,8+2,2)=2,9+7=9,9

**Уласцівасці нуля пры складанні:**

а+0=а 0+а=а

Прыклад:

56,976+0=56,976

Нагадаем раней вывучаныя ўласцівасці аднімання:

**Як ад сумы адняць лік:**

Каб ад сумы адняць лік, можна гэты лік адняць ад любога складаемага, а потым дадаць другое складаемае.

Формула гэтай уласцівасці:

(а+в)-с=(а-с)+в=(в-с)+а пры ўмове, калі с менш чым а або в.

Для дзесятковых дробаў прывядзём прыклад, дзе зручна прымяніць гэтую ўласцівасць:

(24,85+5,73)-2,63=(5,73-2,63)+24,85=3,1+24,85=27,95

Каб ад ліку адняць суму лікаў, можна ад гэтага ліку адняць любое складаемае, а потым ад атрыманай рознасці адняць і другое складаемае.

Формула гэтай уласцівасці:

а-(в+с)=(а-в)-с=(а-с)-в

Для дзесятковых дробаў прывядзём прыклад, дзе зручна прымяняць гэтую ўласцівасць:

87,45-(6,1+34,35)=(87,45-34,35)-6,1=53,1-6,1=47

### Практычная частка 1

Адкажы на пытанні:

а) Па якому правілу складваюцца дзесятковыя дробы?

б) Па якому правілу аднімаюцца дзесятковыя дробы?

Звер свае адказы з правілам у ВЭ-1. Калі твой адказ супаў з правілам у ВЭ-1, то цяпер выканай наступныя заданні:

1. 0,518+2,713=
2. 41,9+2,713=
3. 0,306+8,74=

Калі ўзнікаюць цяжкасці, звярніся да дадатку №1.

### Практычная частка 2

а) Назаві ўласцівасці складання і іх формулы.

б) Назаві ўласцівасці аднімання і іх формулы.

Звер свае адказы з правілам у ВЭ-2. Калі твой адказ супаў з правілам у ВЭ-2, то цяпер выканай наступныя заданні найбольш зручным спосабам:

1. 1,31+0,01+4,89+0,69=
2. 1,64+2,8+0,36+3,2=

***Дадатак №1***

1. 3,231
2. 44,613
3. 9,046

***Дадатак №2***

1. 1,31+0,01+4,89+0,69=(1,31+0,69)+(0,01+4,89)=2+4,9=6,9
2. 1,64+2,8+0,36+3,2 = (1,64+0,36)+(2,8+3,2)=2+6=8

***Дадатак №3***

1. 0,71
2. 2,4379
3. 20,71
4. 48
5. 75,25
6. 0,96
7. 0,08
8. 29,9942
9. 0,002
10. 0,096
11. 10,098
12. 30,1
13. 0,27+(1,78+5,73) = (0,27+5,73)+1,78=6+1,78=7,78
14. 21,49+73,674+31,51 = (21,49+31,51)+73,674=53+73,674=126,674
15. (1,777+9,878)+2,223 = (1,777+2,223)+9,878=4+9,878=13,878
16. 37,45-(26,45+8,888) = (37,45-26,45)-8,888 = 11-8,888 = 2,112
17. 6,73-(4,73+0,87) = (6,73-4,73)-0,87=2-0,87=1,13
18. 9,14-5,67-2,33 = 9,14-(5,67+2,33) = 9,14-8 = 1,14
19. 13,88+8,46-2,46=(13,88+8,46)-2,46=(8,46-2,46)+13,88=6+13,8=19,8
20. 23,63+9,78-2,63=(23,63+9,78)-2,63=(23,63-2,63)+9,78=21+9,78=30,78

***Дадатак №4***

№1211 (г, д, е)

г) 15,4+к=15,4
к=15,4-15,4
к=0

д) 2,8+$L$+3,7=12,5
6,5+$L$=12,5
$L$=12,5-6,5
$L$=5,5

е) (5,6-г)+3,8=4,4
(5,6+3,8)-г=4,4
9,4-г=4,4
г=9,4-4,4
г=5



Фота Юрыя БОНДАРАВА.

***Дадатак №5***

**№1189**

1) 13,8+4,7=18,5 (га) узараў 2 трактарыст.

2) 13,8+18,5=32,3 (га)

*Адказ: 32,3 га*

**№1193**

1) 21,6+4,7=26,3 (км/г) хуткасць катэра па цячэнні

2) 21,6-4,7=16,9 (км/г) хуткасць катэра супраць цячэння

*Адказ: 26,3 км/г; 16,9 км/г.*

**№1194**

1) 37,6-3,9=33,7 (км/г) уласная хуткасць цеплахода

2) 33,7-3,9=29,8 (км/г) хуткасць цеплахода супраць цячэння

*Адказ: 33,7 км/г; 29,8 км/г.*

**№1195**

1) 15-9,7=5,3 (км/г) хуткасць пешахода

2) 15+5,3=20,3 (км/г) агульная хуткасць

3) 20,3 км - на столькі зменшыцца адлегласць паміж веласіпедыстам і пешаходам за 1 гадзіну, калі яны рухаюцца насустрач адзін аднаму, і на столькі ж павялічыцца адлегласць паміж імі праз 1 гадзіну, калі яны рухаюцца з аднаго пункта ў супрацьлеглыя бакі.

*Адказ: 20,3 км*

**№1197**

1) 7,8-3,7=4,1 (м) даўжыня 5 кавалка
2) 7,8+1,3=9,1 (м) даўжыня 3 кавалка
3) 9,1-2,3=6,8 (м) даўжыня 1 кавалка
4) 6,8-4,2=2,6 (м) даўжыня 2 кавалка
5) 6,8+2,6+9,1+ 7,8+4,1=30,4 (м)

*Адказ: 30,4 м.*

**№1198**

1) 2,8+0,8=3,6 (см) даўжыня ВС
2) 3,6+1,1=4,7 (см) даўжыня АС
3) 2,8+3,6+4,7=11,1 (см)

*Адказ: 11,1 см*

**Любоў ГРЫЦКЕВІЧ,**
**настаўніца матэматыкі 171-й мінскай гімназіі.**

# Каб думкі вучняў "адляталі" далёка,

## або Ці патрэбны сёння рэпрадуктыўныя метады навучання?

***Фарміраванне глыбокіх і трывалых ведаў заўсёды было і застаецца адной з важнейшых задач агульнаадукацыйнай школы. Для паспяховага яе вырашэння ва ўмовах рэформы прымаецца цэлы комплекс мер, накіраваных на ўдасканаленне працэсу навучання. У прыватнасці, вялікая работа праводзіцца ў напрамку метадаў навучання.***

Большасць навукоўцаў сыходзіцца ў ацэнцы эфектыўнасці рэпрадуктыўных метадаў навучання як найбольш пасіўных (як з пункту гледжання актывізацыі пазнавальнай дзейнасці вучняў, так і якасці ведаў).

Аналіз урокаў паказаў, што больш як дзве трэці ўрока звычайна заняты рэпрадуктыўнай работай (настаўнік тлумачыць, ілюструе, пытаецца, дае заданні па ўзоры і г.д.). У выніку веды вучняў характарызуюцца меншай фактычнай дакладнасцю і трываласцю. Школьнікі сутыкаюцца са значнымі цяжкасцямі ў засваенні вялікага па аб'ёму матэрыялу, што праяўлецца ў зніжэнні сярэдняй паспяховасці вучняў на працягу апошніх пяці гадоў.

З усяго вышэйсказанага ўзнікае пытанне: "Ці патрэбны сучаснай школе рэпрадуктыўныя метады навучання?"

Нягледзячы на ўяўную прастату, яны ўтрымліваюць у сабе значныя цяжкасці для вучняў. Сістэматычна выкарыстоўваць іх пры вывучэнні новага матэрыялу - гэта значыць дакладна ўспрымаць словы настаўніка, удумвацца ў іх сэнс, сачыць за паслядоўнасцю думак, знаходзіць, выдзяляць асноўныя. Разам з тым неабходна звязаць новыя думкі са сваімі ўласнымі, запомніць іх. Гэта - складаны і цяжкі працэс. Працягласць жа яго для ўсіх вучняў абмежаваны часам прагаворвання інфармацыі настаўнікам. Хаця ўсведамленне вучнямі (у якой-небудзь форме) асаблівасцей рэпрадуктыўных метадаў і мабілізуе іх увагу, паскарае разумовыя працэсы, вучні ўсё ж не паспяваюць асэнсаваць усе словы і выразы, звязаць іх з сістэмай уласных ведаў.

У працэсе навучання з дапамогай рэпрадуктыўных метадаў вучні выконваюць многія разумовыя аперацыі, як бы несвядома, аўтаматычна сочачы за думкай настаўніка, не ўсведамляючы зместу канкрэтнай аперацыі.

"Скаванасць" такой дзейнасці вучняў рэпрадуктыўнымі метадамі, "прывязанасць" разумовых працэсаў да ланцужка думак педагога не дазваляе "адлятаць" далёка думкам саміх школьнікаў, усталёўваць неабходныя сувязі і залежнасці паміж фактамі, з'явамі і падзеямі.

Пра гэта красамоўна сведчыць той факт, што ў сваіх адказах вучні не ідуць далей толькі што праслуханага матэрыялу. Яны аказваюцца не ў стане ажыццявіць сінтэз зместу ўсяго аб'ёму новага матэрыялу і "старых" ведаў, абмяжоўваюць сваю дзейнасць толькі спробамі запомніць пачутае. Гэта пацвярджае і той факт, што вялікі па аб'ёму матэрыял, які ўтрымлівае шмат меркаванняў з фактамі, ніколі поўнасцю не засвойваецца пры выкарыстанні настаўнікам рэпрадуктыўных метадаў. Ускладняе справу і абстрактнасць матэрыялу.

Відавочна, што разумовай работы па яго асэнсаванні ў цэлым, а не асобных частак, якая выконваецца вучнямі падчас паведамлення настаўніка, недастаткова. Каб зрабіць гэта, неабходна аперыраваць, як старымі паняццямі, правіламі, так і новымі, толькі што засвоенымі. Патрабуецца напружанне памяці, вялікая ўстойлівасць і ўвага: даводзіцца пастаянна трымаць у свядомасці ўвесь аб'ект засваення і, перш за ўсё, неабходныя ўяўленні.

> Вялікі аб'ём новага матэрыялу часта вымушае настаўніка толькі прагаворваць гэты матэрыял, думаць пра тое, каб паспець паведаміць асноўнае, а не пра тое, як зрабіць так, каб вучні ўсё зразумелі.

Але запас уяўленняў, узровень засваення "старога" матэрыялу ў вучняў, якія слухаюць настаўніка, розны. Адрозніваюцца і індывідуальныя асаблівасці разумовай, ды і ўвогуле псіхічнай дзейнасці дзяцей. Вучні не ў стане ўсвядоміць усе сувязі адразу, у вельмі кароткі прамежак часу і без паўторнага ўспрыняцця.

Асабліва гэта датычыць засваення новага матэрыялу слабымі вучнямі. Не маючы дастаткова трывалых і рухомых "старых" ведаў, яны не могуць хутка ўспомніць патрэбныя словы, факты, высновы, правілы. Новы матэрыял, вобразна кажучы, складваецца ў свядомасці гэтых вучняў абы-як, без увязвання. Эфектыўнасць такога засваення - мізэрная, і таму ствараецца ўражанне, што слабыя вучні, слухаючы настаўніка, зусім не вучацца.

Нам здаецца, што цяжкасць уключэння новага матэрыялу ў сістэму наяўных ведаў у дзяцей з'яўляецца адной з асноўных пры рэалізацыі рэпрадуктыўных метадаў навучання. Менавіта тут перш за ўсё хаваецца асноўная крыніца фармалізму ў ведах школьнікаў. На жаль, вельмі часта настаўнік пакідае вучня сам-насам з гэтай праблемай, амаль ніяк не дапамагаючы яму. Вялікі аб'ём новага матэрыялу часта вымушае настаўніка толькі прагаворваць гэты матэрыял, думаць пра тое, каб паспець паведаміць асноўнае, а не пра тое, як зрабіць так, каб вучні ўсё зразумелі. У такіх выпадках выкладанне адбываецца лінейна. Як правіла, факты, даты, палажэнні і высновы ў гэтым працэсе амаль не паўтараюцца, нярэдка яны ніяк не ўвязваюцца з раней вывучанай тэмай. Усё гэта стварае неспрыяльныя ўмовы для работы дзіцячай памяці: адсутнічае адзін з важных фактараў - паўтаральнасць.

Рэпрадуктыўныя метады не заўсёды гарантуюць напружаную ўвагу кожнага вучня на працягу ўсяго часу выкладання. Страта ўвагі вядзе да непазбежнага пропуску фактаў, думак з паведамлення настаўніка.

Пакуль не мае практычнага вырашэння праблема кантролю настаўнікам ходу засваення матэрыялу кожным вучнем пры выкарыстанні гэтых жа рэпрадуктыўных метадаў. Хаця вопытны педагог і можа па шэрагу прыкмет (выраз твару, вачэй, рэакцыя) меркаваць пра тое, разумеюць яго ці не. Але гэты спосаб кантролю даступны не кожнаму настаўніку, не заўсёды магчымы ды і не канкрэтны. А пастаянная залежнасць мыслення дзяцей ад тэмпу выкладання не дазваляе арганізаваць самакантроль вучняў за засваеннем: слухаць настаўніка і адначасова кантраляваць засваенне без рызыкі нешта прапусціць наўрад ці магчыма.

Адсутнасць кантролю і самакантролю непазбежна стварае ў школьнікаў ілюзію засваення. Яна асабліва заўважаецца ў вучняў малодшай і сярэдняй узроставых груп, пераважна ў моцных і сярэдніх па паспяховасці. З гэтым фактарам неабходна лічыцца, бо ён у значнай ступені вызначае стаўленне вучняў да далейшай працы над новым матэрыялам.

Разам з тым, выкарыстанне рэпрадуктыўных метадаў прадастаўляе магчымасць рэалізацыі важных дыдактычных прынцыпаў: сістэматычнасці і паслядоўнасці, даступнасці, сувязі з тэорыяй і практыкай, на што ўказвае Л.М.Фрыдман ("Нагляднасць і мадэляванне ў навучанні").

Вопыт паказвае, што менавіта рэпрадуктыўныя метады забяспечваюць успрыманне, запамінанне і рэпрадуцыраванне дзеянняў, служаць базай для назапашвання ведаў аб прадметах і з'явах навакольнага свету. Яны дапамагаюць вучню ўсведамляць і засвойваць спосабы дзеянняў, якія часта прымяняюцца ім у вучэбнай рабоце.

Як паказала праведзенае намі эксперыментальнае даследаванне, выкарыстанне рэпрадуктыўных метадаў навучання эфектыўнае не толькі пры выкладанні матэрыялу эмацыянальнага, насычанага фактамі, падзеямі, сюжэтнага. Яно эфектыўнае і пры вывучэнні з'яў палітычнага, культурнага і эканамічнага жыцця, пры засваенні новых, складаных паняццяў, лагічна звязаных паміж сабой.

Рэгулярнае прымяненне рэпрадуктыўных метадаў не толькі дае магчымасць настаўніку непасрэдна кіраваць разумовай дзейнасцю вучняў па авалодванні новым матэрыялам, але і ў тыповых сітуацыях дазваляе школьнікам дасягнуць намечанай мэты найбольш рацыянальным шляхам.

Разважаючы ўслых, настаўнік можа далучаць да працэсу мыслення і слухачоў. Вялікае значэнне маюць і ўзаеміны, непасрэдны кантакт педагога і вучняў.

> Інфармацыю нясе не толькі тое, што сказана, але і тое, як... Вучні ў працэсе навучання лёгка схопліваюць вокліч, пытанне, здзіўленне, сумненне, катэгарычнасць, падкрэсліванне асаблівай значнасці, выдзяленне асноўнага ў матэрыяле.

Інфармацыю нясе не толькі тое, што сказана, але і тое, як, якім тонам і кім, у якой сувязі з папярэднім. Дзеці ў працэсе навучання лёгка схопліваюць вокліч, пытанне, здзіўленне, сумненне, катэгарычнасць, падкрэсліванне асаблівай значнасці, выдзяленне асноўнага ў матэрыяле.

Такім чынам, адрозненні ў засваенні новага матэрыялу пры выкарыстанні рэпрадуктыўных метадаў выклікаюцца наступнымі фактарамі:

1. Абмежаванасцю часу ўспрыняцця новага матэрыялу часам прагаворвання яго настаўнікам.
2. Наяўнасцю ў выкладанні настаўніка рацыянальных спосабаў разумовай апрацоўкі матэрыялу.
3. Дынамічнасцю зместу, ступенню яе прыстасавальнасці да ўзроўню развіцця дадзенага класа, сувяззю з вопытам вучняў.
4. Аб'ёмам і эмацыянальнасцю інфармацыі.

Як і якім жа чынам можна пазбавіцца адзначаных вышэй недахопаў?

З вопыту арганізацыі працэсу навучання, а таксама з уласнай практыкі правядзення ўрокаў магу сцвярджаць, што адным з рацыянальных шляхоў павышэння эфектыўнасці ўрока з'яўляецца забеспячэнне метадычна мэтазгоднага выбару і аптымальнага спалучэння метадаў навучання школьнікаў.

Наш падыход прадугледжвае арганізацыю вучэбна-пазнавальнай дзейнасці вучняў з дапамогай рэпрадуктыўнага і эўрыстычнага метадаў у сваіх разнастайных спалучэннях.

З аднаго боку, узаемасувязь названых метадаў вынікае з неабходнасці пераадольваць фармальны, рэцэптыўны падыход да засваення ведаў, які не забяспечвае падрыхтоўкі школьнікаў да творчай дзейнасці ў будучым, да самастойнага здабывання ведаў. З другога, гэтае патрабаванне засцерагае педагогаў ад перабольшвання ролі пошукавых, эўрыстычных метадаў навучання, бо яны не могуць быць паспяховымі без пэўнай базы фактычных ведаў.

Параўнальны аналіз праграмнага і фактычна засвоенага вучнямі матэрыялу паказаў, што ні рэпрадуктыўны, ні эўрыстычны метады не забяспечваюць адэкватнага засваення вучнямі праграмнага матэрыялу ў працэсе першапачатковага ўспрыняцця і асэнсавання яго. Выкарыстанне названых метадаў паасобку забяспечвае толькі частковыя дасягненні.

У ходзе эксперыментальнага даследавання намі ўстаноўлена, што, не з'яўляючыся дыспаратнымі, рэпрадуктыўны і эўрыстычны метады тым не менш па-рознаму арганізуюць пазнавальную актыўнасць і разумовую дзейнасць вучняў па засваенні новага вучэбнага матэрыялу, што і нараджае асаблівасці засваення пры выкарыстанні таго і другога метадаў.

Рэпрадуктыўны і эўрыстычны метады ў вучэбным працэсе не процістаяць адзін аднаму, не канкурыруюць паміж сабой, а, будучы неабходнымі складанымі вучэбнага працэсу, павінны гарманічна зліваца, дапаўняць адзін аднаго.

**Наталля ЛІТВІНЮК,**
**аспірантка кафедры агульнай педагогікі БДПУ імя М.Танка.**

